# Веcткі й Паведамленьні

*інфармацыйны бюлетэнь Згуртаваньня "ПАГОНЯ"*

**Viestki j Paviedamleńni**



**Сусьветнае сеціва:** ***e-krama.com, pahonia.com***
**Электронны адрас:** ***viestki@mail.com***
✉ ***P. O. Box 3225, Farmingdale, NY 11735***



**№ 9 (619)**
**Верасень 2017 г.**


# 500 год беларускаму кнігадруку

6 жніўня 2017 году, спаўняецца 500 год з часу выхаду першай кнігі, выдрукаванай беларускім асьветнікам і гуманістам Францішкам Скарынам. Гэта значная і слаўная дата, і яна мусіць быць годна і шырака адзначаная беларусамі па ўсім сьвеце. Выхад Псалтыра ў Скарынавым перакладзе, у беларускай рэдакцыі старaславянскай мовы, вывеў беларусаў наперад сярод усіх народаў Усходняй Эўропы. Набліжэньне Сьвятога Пісьма да звычайнага шэраговага верніка, выклад Слова Божага ў зразумелай простаму люду мове – гэта было інфармацыйнай і сацыяльнай рэвалюцыяй, аналягам якой, у сэнсе кнігадрукарскім, можа быць кампутэрная рэвалюцыя канца 20 ст. і сеціўная пачатку 21 ст. Ёсьць паралелі аптымістычныя, ёсьць, на жаль, і невясёлыя паралелі са станам беларускай культуры праз 500 год ад часоў Скарыны.

Чаму постаць Скарыны такая важная і значная для беларусаў? Перш за ўсё трэба адзначыць, што яна лучыць беларусаў, а не разьядноўвае. Скарына прывабны як для беларускага нацыяналіста, так і для камуніста-лукашэнкаўца, а таксама і для "звачайнага чалавека", пасыўнага змагара за існаваньне, спажыўца расейскай тэлепрадукцыі. Гэта не безумоўнае яднаньне, бо і камуністы некалі замоўчвалі Скарыну як "сярэднявечнага манаха", і праваслаўныя русафілы падазраюць у ім мажлівы падступны "праект Захаду". Але тым ня менш яго цяжэй сьпісаць у "папскія агенты" ды "антысаветчыкі-калябаранты", лягчэй убачыць ягоныя культурніцкія дасягненьні.

Другое – наватарства. Ідэя скарыстаць новыя тэхналёгіі – набор і друк – для распаўсюду Слова Божага і для адукацыі людзей "простых, паспалітых", ішла поруч з разьвіцьцём найбольш прасунутых грамадстваў таго часу.

Трэцяе – маштаб дзейнасьці Скарыны. Ён сягае далёка за нацыянальныя рамкі, і сягае ад Полацку, Прагі Чэскай ды Вільні да Капэнгагэну, Кёнігсбэргу-Каралеўца, Масквы і Кракава. Ён быў сучасьнікам і, у пэўным сэньсе, калегам, Леанарду да Вінчы, Мікеланджэла Буанароці і Марціну Лютэру.

Чацьвёртае – жыцьцё і дзейнасьць. Гэта найцікавейшы прыгодніцкі раман, дзе ёсьць і каханьне, і хвіліны трыюмфу, і страты й паразы, і турэмныя краты, і здольнасьць пачаць новае жыцьцё. І гэта толькі па тых дакумэнтах, што ацалелі й дайшлі да нас праз стагодзьдзі!

Наступнае – Скарына скіраваны ў будучыню. Замоўчаны, схаваны сотні гадоў па архівах і бібліятэках, ён выйшаў на шырокі прасьцяг, ён быў з адраджэнцамі "Нашай Нівы", стаўся часткаю аповеду беларусізацыі 1920-х, пра яго пісалі ў беларускіх выданьнях пад нацыстоўскай акупацыяй, яго хоцькі-няхоцькі, як "Георгія", прапагандавалі ў БССР, зь ягоным імём зьвязанае нацыянальнае адраджэньне 1980-90-х гадоў, што прынесла рэальную нацыянальную незалежнасьць 25 жніўня 1991 году. Безумоўна, адкрыцьцё новых фактаў з жыцьця і дзейнасьці Францішка Скарыны будзе працягвацца, і ягоная постаць будзе прысутная пры маючых надыйсьці, раней ці пазьней, часінах вызваленьня Бацькаўшчыны ад антыбеларускай тыраніі.



Францішак Скарына быў народжаны "ў слаўным горадзе Полацку" каля 1486-1490 г.г., у 1504 годзе пачаў вучобу на Кракаўскім унівэрсытэце, у 1512 годзе абараніў ва ўнівэрсытэце Падуі вучоную ступень доктара лекарскіх навук. Пры падтрымцы дыгнітароў-мэцэнатаў зь Вільні Францішак Скарына выдаў у 1517-19 гадох у Празе 23 кнігі Бібліі на мове, якую ён называў "рускай", і якую сёньня навукоўцы ўважаюць за мову старажытнабеларускага пісьменства. Першай кнігай Скарыны стаў Псалтыр, выдадзены ў Празе 6 жніўня 1517 году. Гэтая кніга найчасьцей ужывалася для чытаньня і для навучаньня, і ня дзіўна, што менавіта зь яе пачаў сваю дзейнасьць беларускі першадрукар.

Змушаны пераехаць у Вільню, Скарына працягнуў кнігавыданьне ў сталіцы Вялікага Княства Літоўскага, і каля 1522 году выйшаў зборнік пад агульнай назвай Малая Падрожная Кніжка. Ён улучае Псалтыр, каноны і акафісты (царкоўныя сьпевы). У 1525 годзе быў выдадзены "Апостал" (Апостальскія Дзеі). Скарына служыў лекарам і сакратаром біскупа Віленскага. Затым у 1530 годзе быў у Каралеўцы на запросіны прускага ўладара герцага Альбрэхта, а з 1535 году жыў у Празе, быў каралеўскім даглядчыкам аднаго зь першых у Эўропе батанічных садоў. Памёр Скарына ў Празе каля 1551 году. Існуе шэраг гіпотэзаў, у прыватнасьці аб асабістай сустрэчы й паляміцы зь Лютэрам і аб паездцы ў Маскву дзеля распаўсюду сваіх выданьняў.

Працягваюць выклікаць спрэчкі пытаньні паходжаньня і канфэсійнай прыналежнасьці Скарыны. З больш як 20 дакумэнтаў, што захаваліся і наўпрост зьвязаныя з асобаю Скарыны, аніводзін

***заканчэньне на бачыне 3***

# Жнівенскі сход Згуртаваньня "Пагоня"

У суботу, 12 жніўня, у Цэнтральным парку на Мангэтане прайшоў чарговы, жнівеньскі, сход Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня "Пагоня". Напачатку сходу старшыня арганізацыі сп. Віталь Зайка прывітаў прысутных і распавёў пра мэты і задачы Згуртаваньня "Пагоня", заклікаў карыстаць з нагоды і знаёміцца, абменьвацца інфармацыяй. Затым сп. Зайка спыніўся на важнай і слаўнай даце для беларускай культуры і гісторыі, што надыйшла акурат у гэтым месяцы – 500-годзьдзі беларускага друку – і на асобе беларускага гуманіста і першадрукара Францішка Скарыны. Як вядома, 6 жніўня 1517 году Францішак Скарына, "доктар навук вызваленых са слаўнага горада Полацку" выдаў у Празе Чэскай першую друкаваную кнігу Псалтыр на старaславянскай мове ў беларускай рэдакцыі. Гэтая падзея ўвяла беларусаў у культурнае жыцьцё Эўропы, дала "люду простаму паспалітаму" Біблію, што была перакладзеная і надрукаваная ў зразумелай мове і праз гэта падкрэсьліла індывідуальную вартасьць кожнага чытаючага, кожнага зацікаўленага ў Слове Божым. Гэтым падкрэсьлілася вялікае адрозьненьне жыхароў Вялікага Княства Літоўскага ад Масковіі, у якой доступ да Слова Божага наўмысна заставаўся манаполіяй абмежаванага кола клерыкалаў.

Сп. Зайка коратка распавёў пра тое, што мы сёньня ведаем пра абставіны жыцьця і дзейнасьці беларускага першадрукара. Скарына нарадзіўся ў Полацку каля 1490 году ў сям'і купца Лукі Скарыны. У 1506 годзе ён скончыў Кракаўскі ўнівэрсытэт і атрымаў пазьней ступень доктара гуманітарных навук. У 1512 годзе Скарына здаў іспыт у Падуанскім унівэрсытэце ў Італіі на ступень доктара мэдыцыны. І праз 5 год ён ужо ў Празе, за друкарскім варштатам. Усьлед за першай кнігай, Псалтыром, у хуткай прагрэсіі выходзяць наступныя кнігі Бібліі: Кніга Іёва (10 верасьня 1517), Прыпавесьці Саламона (6 кастрычніка 1517), Кніга Ізуса Сіраха (5 сьнежня 1517), Эклезіяст (2 студзеня 1518), Песьня Песьням (9 студзеня 1518), Кніга Прамудрасьці Божай (18 студзеня 1518), Кніга Царстваў (10 жніўня 1518), Кніга Ізуса Навіна (20 сьнежня 1518), і яшчэ 11 кнігаў у 1519 годзе. Лічыцца, што існавалі таксама іншыя Скарынавы друкі з Прагі, але яны захаваліся толькі ў рукапісных копіях. Каля 1522 году Скарына перабраўся ў Вільню і выпусьціў зборнік зь віленскім перавыданым Псалтыром ды рознымі літургічнымі царкоўнымі творамі, пад агульным назовам Малая Падарожная Кніжка, і ў 1525 годзе выдаў кнігу Апостал (Апостальскія Дзеі). Прамоўца ўзгадаў таксама прыкладныя абставіны пазьнейшага пэрыяду Скарыны, і ягоны канец жыцьця, што наступіў у Празе паміж 1540 і 1551 гадамі.

Сп. Віталь Зайка распавёў, чаму Скарына так важны і актуальны для сёнешняга жыцьця беларусаў, і зьвязаў стаўленьне да асобы і дзейнасьці Скарыны з антыбеларускай пазыцыяй сёнешняга кіраўніцтва Рэспублікі Беларусь, што праігнаравала слаўны юбілей і паставіла пад пагрозу незалежнасьць краіны, пускаючы на сваю тэрыторыю войска рэваншысцкай Расеі пад маркаю вайсковых манэўраў. Падсумоўваючы, прамоўца аддзначыў, што ў жыцьці й дзейнасьці Скарыны застаецца яшчэ шмат таямніцаў і нявысьветленых пытаньняў, і што новыя пакаленьні навукоўцаў і дасьледчыкаў будуць прадаўжаць працу ў галіне скарыназнаўства, а кожны беларускі патрыёт мусіць бліжэй пазнаёміцца з творчасьцю вялікага беларускага асьветніка.

Сябры і госьці "Пагоні" зь цікавасьцю выслухалі прамову, а прысутны на сходзе разам з жонкай сп. Анатоль Занковіч паказаў грамадзе фатаздымкі працаў свайго кузына, скульптара Валянціна Занковіча, сярод якіх ёсьць таксама скульптуры Францішка Скарыны.

Напрыканцы сходу прагучэлі аб'явы і паведамленьні.

***Віталь ЗАЙКА***



# Сыстэма “дробных пакасьцяў у гібрыднай вайне



Украінцы прааналізавалі дзейнасьць расейкай агентуры ва Украіне і выявілі татальнае ўжываньне мэтадалёгіі “дробных пакасьцяў”. Гэта гэбоўскі плод “творчасьці” расейцаў па развале грамадзтва іншай краіны. Такое наватарства магло нарадзіцца толькі ў “скопішчы зла”. Сутнасьць мэтаду – стварэньне праз агентуру (і агентаў уплыву) у розных галінах жыцьця (у быце, вытворчасьці, уладных структурах, гандлі, адміністрацыі) заведама бесталковых, дурных інструкцый, законаў, пастаноў, ініцыятываў, патрабаваньняў і т. п., якія робяць жыцьцё людзей дыскамфортным, нязручным і невыносным, выклікаюць незадавальненьні, канфлікты, недавер і, увогуле, стан сацыяльнай нэўрастэніі. У выніку – зьмяншаецца салідарнасьць людзей, давер да дзяржавы і агульнай справы; цэлыя галіны жыцьця грамадзтва пачынаюць дэградаваць, соцыюм пачынае распадацца, зьяўляецца сыстэмны збой у дачыненьнях між людзьмі і іхнымі справамі, якія трацяць здаровы сэнс.

Мэтодыка “дробных пакасьцяў” дае магчымасьць выкарыстоўваць непрафэсіяналізм упраўленцаў, схільнасьць да карупцыі, да сэрвільнасьці, кар’ерызму і, увогуле, эксплюатаваць чалавечую дурноту і недахопы людзей. (Дарэчы, гэта вельмі тыповыя паводзіны для “скопішча зла”. У хрысьціянскай сярэднявечнай традыцыі так характарызавалася бесаўшчына.)

Калі мы зірнем на рэжымнае грамадзтва ў Беларусі знутры, то заўважым, што ў дачыненьнях да беларусаў цэлыя галіны дзейнасьці, напрыклад, камунальныя службы, індывідуальнае прадпрыймальніцтва, у цэлым увесь бізнэс, падатковыя, мытныя, чарнобыльскія дачыненьні, сьвінагадоўля, будаўніцтва, інвэстыцыі, вышэйшая адукацыя і г. д. – усё гэта ў значнай частцы існуе ў сфэры дывэрсійнай палітыкі “дробных пакасьцяў”, і ўвесь час яно зьмяняецца, пашыраецца, награможджваецца абсурдам.

З шмат якіх сфэраў людзі проста ўцякаюць, куды вочы глядзяць – за мяжу, ва Украіну, у Расею, у бутэльку і г. д., – а сыстэма прагрэсуе міязмамі надалей. Тут вам і сьвіная чума, і дэкрэт №3, і гаспадарка ў Чарнобыльскай зоне, і экспрапрыяцыя ў людзей права на карыстаньне лесам, рэчкамі, вадою і таму падобная карэізацыя жыцьця.

Шмат хто сьпісвае такую “палітыку” на мазаічнасьць псыхікі правіцеля, на эпілепсію ды паранойю. Аднак правільны дыягназ усё ж называецца інакш – “сыстэмная палітыка вынішчэньня беларускай нацы”. Гэты дыягназ ёсьць дакладны, нават калі прыняць як дадзенасьць усе папярэднія мэдыцынскія дыягназы. У народзе пра такі выпадак кажуць так: “Дурны-дурны, а скваркі любіць”.

І вось самы апошні “бум” мазаічнай (нібыта) палітыкі “дробных пакасьцяў”, які ўзьнікае пастаянна ўжо 23 гады кожны год, пачынаючы з 1994-га. Гэты “бум” называецца “рэформа беларускай школы”. Пачаўся ён у 1994 годзе спаленьнем беларускіх падручнікаў для школаў і доўжыцца па сёньняшні дзень. Беларускія школы зачыняліся кожны год. Засталося ўжо толькі 13 адсоткаў умоўна беларускіх школаў. Добрыя настаўнікі альбо разьбегліся, альбо здаліся на волю лёсу, бо школа – гэта дзяржаўная сыстэма, якой кіруюць антынародныя чыноўнікі. Настаўніку няма куды падзецца, як толькі здацца ў школьнае рабства і даць сябе выкарыстоўваць на фальшывых псэўдавыбарах як панэльных істот. Тут поўная сацыяльная дэградацыя (ды і маральная) і паніжэньне настаўнікаў.

Усё тое сталася не само сабою, але ў выніку прадуманай сыстэмнай дзейнасьці “дробных пакасьцяў” і генэральнай палітыкі зьнішчэньня беларускай нацы.

Нацыянальная мова і нацыянальная дзяржава ўтрымлівае жыцьцё і існаваньне нацы. Але стварае нацыю, праграмуе яе ўзровень паўсюдна і ўсюды – нацыянальная школа. Разбурыць нацыянальную школу – абазначае разбурыць нацыю. Пытаньне толькі ў часе, бо гэта працэс.

І што цікава, важнасьць гэтай вызначальнай сфэры нацы (куды ворагі імкнуцца біць) зразумеў малаадукаваны, косна-моўны беларусафобны “калхазан”. Але не разумеюць некаторыя нібыта высокаадукаваныя людзі, вучоныя ды дзеячы, што жывуць у сябе дома на ніве чужой культуры. А прычына ў антынароднай нацыянальна разбуранай школе. Гэта там ім убілі ў галаву, што двойчы два – пяць, і што чужое лепшае за сваё.

І цяпер гляньма на мазаіку “дробных пакасьцяў” апошняга часу (мазаіку дабіваньня беларускай школы).

На фоне стабільнага зачыненьня беларускіх школаў астатнюю ўжо расейскую школу (але для беларускіх дзяцей) мэтода “дробных пакасьцяў” ліхаманіла кожны год. І, як правіла, летам, за месяц да новага навучальнага году. Тэрмінова загадвалі мяняць вучэбныя праграмы, падручнікі, пераходзіць на 10-бальную сыстэму ацэнак, пераводзіць 10-годку на 12-годку, потым раптам – 12-годку на 11-годку, далей сталі думаць, каб зноў вярнуць на 10-годку. Цяпер вось зноў настаў жнівень, і выскоквае, як чорт з табакеркі, цэлая “пуля” “дробных пакасьцяў”.

**_заканчэньне на бачыне 4_**

# 500 год кнігадруку

**_заканчэньне з бачыны 1_**

ня тычыцца выдавецкай і асьветніцкай дзейнасьці, і ўсе ягоныя пагляды і пазыцыі выводзяцца навукоўцамі з тэкстаў ягоных публікацыяў, у прыватнасьці, з прадмоваў і пасьляслоўяў да кніг Бібліі ды Малой Падарожнай Кніжкі. З гэтага вынікае, што Скарына быў чалавекам Рэнэсансу, ягоныя словы прасякнутыя гуманістычнымі ідэямі, а сацыяльна-палітычныя пагляды былі скіраваныя на простага, “паспалітага” чалавека з “брацііі маёй Русі”, у служэньні якому Скарына бачыў сваю звышзадачу. У славутай прадмове да кнігі Юдыты ён узьнёсла ўхваляе патрыятызм, захапленьне чалавека сваёй зямлёю і яе народам.

Францішак Скарына быў першапраходцам усходнеславянскага кнігадрукаваньня, адмыслова распрацаваў шрыфты сваіх выданьняў, багата карыстаў з дрэварытаў-ілюстрацыяў, большасьць зь якіх – арыгінальныя або адмыслова перапрацаваныя кампазыцыі. Славуты сымболь Скарыны, “сонца маладзіковае”, дасюль не расшыфраваны. Застаецца шмат працы і для навукоўцаў – шукаць дакумэнты і невядомыя навуцы выданьні, інтэрпрэтаваць Скарынаву спадчыну.

Ну а сёнешнія “паспалітыя” беларусы мусяць ведаць і памятаць свайго земляка, цікавіцца ягонымі працамі, жыцьцём, ідэямі. Для кожнага беларускага патрыёта гэта ёсьць непасрэдны абавязак, і калі як не цяпер, у дні сьвяткаваньня 500-годзьдзя пачатку Скарынавай дзейнасьці, ёсьць найлепшы час запачаткаваць сваю асабістую Скарыніяну.

**_Віталь ЗАЙКА_**

# Сыстэма “дробных пакасьцяў”

*заканчэньне з бачыны 3*

Загадана тэрмінова зьмяніць падручнікі. Навошта? Якія на якія – ніхто ня ведае. Загадана не ўспамінаць слова “Біблія” на занятках па беларускай мове і літаратуры, не ўпамінаць словы “апазыцыя” і “Народны Фронт” у гісторыі краіны, выкінуць “Лісты з-пад шыбеніцы” Каліноўскага, не ўпамінаць парляманцкую Апазыцыю БНФ ў Вярхоўным Савеце, выключыць тэму “Беларускі нацыянальны рух”, не ўпамінаць шляхецкія паўстаньні і Агінскага. Загадана ўвесьці паболей кітайскай мовы ў вучэбныя праграмы. А за кошт чаго? Ніхто ня ведае.



Вэрдыкт: зьмяніць пачатак заняткаў у школе. Дыскусія, бо ніхто ня ведае, калі пачынаць: а 9-й гадзіне, а 8.30 ці пакінуць па-ранейшаму – а 8-й. Тут жа яшчэ адзін вердыкт зьверху – увесьці школьную форму для вучняў (“усе павінны быць аднолькавымі” – цытата) і форменны стыль адзеньня для настаўнікаў. І, нарэшце, на пакрыцьцё, – яшчэ адзін супэртэрміновы пакасны вердыкт – вярнуцца да пяцібальнай ацэначнай сыстэмы. Навошта? А вось вярнуцца – і ўсё. Дыскусія, спрэчкі, нэрвы. 10 ці 5 балаў – вось дзе пытаньне.

Вось гэта, спадарства, усё тое, што было кожны год і паўтараецца зноў у гэтым жніўні – гэта і ёсьць клясыка подлай тэхналёгіі “дробных пакасьцяў” па развале нацыянальнай школы і дызарыентацыі грамадства. Мазаічнасьць псыхікі тут ні пры чым. Усё робіцца з году ў год мэтанакіравана, прадумана і шматвэктарна.

Уявім перавод пачатку заняткаў з 8-й гадзіны на 9-ю. Тым часам пачатак працы бацькоў застаецца – з 8-й гадзіны. Колькі праблемаў непатрэбных, бесталковых, невырашальных узьнікае адразу ў людзей. Грамадства вымушана цяпер усё гэта абмяркоўваць як найважнейшую справу: 8 гадзін ці 9 гадзін, 5 балаў ці 10 балаў, у форме ці ня ў форме... А як, а што? А куды? і т. п.

Тым часам рэжымнае драньства, што ўсё гэта прыдумвае, паціраe ручкі. І школу валяць, і гібрыдную акупацыю краіны ціхенька праводзяць – нібыта вучэньні “Захад-2017” рыхтуюць. А беларусы (якія ўжо ў мяшку, засталося толькі завязаць) хай сабе, маўляў, спрачаюцца: з 8 ці зь 9, 10 ці 5. Расейскія танкі ўжо прыехалі.

Прыёмамі адцягненьня ўвагі людзей ад подлых сваіх справаў Масква карыстаецца ўвесь час. Толькі беларусы, на жаль, нічаму ня вучацца, бо мазахічна любяць “нашава харошава прызідэнта”, які даўно ніякі не прэзыдэнт, а ўзурпатар улады, здраднік, што здае Беларусь на корані, нацыю здушыў, зганьбіў і абхаміў усё, што магчыма.

Надта цяжкі мы пераажываем час, час цемры. І надта шмат яшчэ трэба прыкласьці сілаў, каб збавіцца ад цёмнай навалы, што стаіць ужо на парозе. Але збавімся.

*20 жніўня 2017 г.*

***Зянон ПАЗЬНЯК***

## Шаноўнае спадарства!

**У хуткім часе выходзіць з друку чарговы нумар літаратурнага альманаху беларускіх пісьменьнікаў замежжа “Беларус”, і на адным са сходаў Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “Пагоня” адбудзецца ягонага прэзэнтацыя.**

**Калі ласка, сачыце за абвесткамі і не прапусьціце гэтую цікавую імпрэзу.**

**Уплаты ў Згуртаваньне Ñêëàäê³ é àõâÿðàâàíüí³:**

**А. Данкоў ..................60**

**Усім шчыры дзякуй!**

**Уплаты ў Згуртаваньне “Пагоня” шліце на адрас:**
*P. O. Box 572*
*New York, NY 10113*

**Чэкі выпісвайце на імя скарбніка Згуртаваньня “Пагоня”** *Viktar Yedzinovich.*

*Паважаныя* ***М. Дзікун, Ю. і І. Валковіч, С. Скародзька, Я. Стэцко, Ю. Шкода****, калі ласка, паведаміце рэдакцыі вашыя дакладныя паштовыя адрасы.*

## Наступны сход

**Беларуска-Амэрыканскага Згуртаваньня “ПАГОНЯ”**

адбудзецца ў суботу **9-га верасьня 2017 году** на Мангэтане ў Цэнтральным парку.

Сход пройдзе на пагорку ля вялікага возера (*The Lake with Boating*) з чаўнамі (паляна знаходзіцца на поўнач ад *Terrace Drive* і на захад ад *The Mall at Bethesda Fountain*) ля вялікіх скалаў-валуноў.

**ЗБОР** а **10.30** раніцы ля ўвахода ў парк пры 5-й авэню і 72-й вуліцы.

------------------

*Аб месцы і часе правядзеньня сходаў ды іншых імпрэзаў, ладжаных Згуртаваньнем “Пагоня”, можна даведацца, наведаўшы сайт* ***pahonia.com***

**Ахвяравалі на выданьне бюлетэня *Весткі й Паведамленьні*:**

**А. Данкоў .................30**

**Шчыры дзякуй!**

*Падпісацца на бюлетэнь можна даслаўшы ў рэдакцыю аплату гадавой падпіскі (**$30**) на адрас:*

***Marat Klakotski***
***P. O. Box 3225***
***Farmingdale, NY 11735***

*Чэкі выпісвайце на імя скарбніка “Пагоні”* ***Viktar Yedzinovich****.*

*Падпіску на бюлетэнь таксама можна аформіць на сайце* ***www.e-krama.com***

*Рэдакцыя бясплатна надрукуе прыватныя абвесткі і будзе ўдзячная за дасланыя для друку артыкулы, водгукі й лісты.*